

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY

№ 10 (156) ЧЭРВЕНЬ 2013 ГОД


*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня!*
*М. Багдановіч.*

**ПОГЛЯД РЭДАКТАРА**

*Усё залежыць ад нацыянальнай і палітычнай свядомасці народу. На што мы здольныя, такая доля ў нас і будзе.*
***Васіль Быкаў, 1991 год***

# СПАДЧЫНА ВАСІЛЯ БЫКАВА

**19 чэрвеня – дзень народзінаў Васіля Быкава, выбітнага пісьменніка Беларусі, які адыграў ключавую ролю ў нацыянальным адраджэнні. Мінула дзесяць гадоў, як мы жывем без Васіля Уладзіміравіча. Аднак за гэтыя дзесяць гадоў кнігі нашага вялікага беларуса па-ранейшаму выдаваліся і перавыдаваліся ў розных краінах на 50 мовах.**

Здаецца і пры камуністычным рэжыме пісьменнік не быў пакрыўджаны ўладамі. Заслужана меў усе савецкія рэгаліі і карыстаўся матэрыяльнымі прывілеямі. Аднак за знешняй шырмай іміджу народнага пісьменніка хавалася глыбокая ўнутраная драма. Чалавек высокай маралі, ён заўсёды прагнуў захаваць сваю сумленнасць і чалавечнасць у самыя змрочныя часы. Галоўны творчы прынцып Васіля Быкава – гэта жыццёвая праўда, якая б суровай яна не была. Жорсткая праўда паяднала яго творы з і лепшай расейскай літаратурай пра вайну, а праз тое з сусветнай. Проза Быкава ідзе ад рэальнага жыцця, яна аўтабіяграфічная, гэтаксама, як аповесці Юрыя Бондарава, Віктара Астаф'ева, Васіля Гросмана, Віктара Някрасава, Эрыха Рэмарка.

Бясспрэчна, галоўнае ў спадчыне Быкава – гэта кнігі, якія ён пакінуў пасля сябе. Вядомыя ўсяму свету ягоныя аповесьці "Альпійская балада", "Мёртвым не баліць", "Сотнікаў", "Абеліск", "Дажыць да світання", "Пайсці і не вярнуцца".

Большасць сваіх твораў Быкаў пісаў па-беларуску, многія з іх сам перакладаў на расейскую. Яго літаратурныя працы перакладзены на шматлікія мовы. Знята некалькі мастацкіх кінастужак. Найбольш значныя ў апошні час – "У тумане" і "Бліндаж"

Напэўна, чым больш таленавіты пісьменнік, тым больш выразна ён усведамляе бяссілле літаратуры ў пераўтварэнні грамадства. Быкаў – гэта пісьменнік, які не любіў афіцыёз. Ён пісаў свае творы ўласнай крывёй і потам, у той час, калі яго калегі крывадушна ўсхвалялі баявыя і працоўныя подзвігі "савецкага народа". Таму зусім не выпадкова, што Васіль Быкаў змяшчаў сваіх герояў у экстрэмальныя сітуацыі, жадаючы выпрабаваць іх на маральную трываласць. З такой жа меркай ён падыходзіў да беларускага народу, спрабуючы высвятліць, ці знойдуцца ў яго маральныя і духоўныя сілы, каб адстаяць права на свабоднае і годнае жыццё.

На пачатку незалежнасці Беларусі Быкаў ужо меў вядомасць сусветнага маштабу, якой не меў ніводны беларускі пісьменнік. Ён мог спакойна абмежавацца літаратурай, але аддаў свой час грамадска-палітычнай дзейнасці на карысць Бацькаўшчыны. І зрабіў гэта свядома, адчуваючы патрэбу ў свабодзе як творчы інтэлігент, якому неабыякавы лёс спрыгнечанага беларускага народа. Бо ўбачыў, што да ўлады зноў дарваліся нашчадкі расейскіх камуністаў, для якіх незалежная нацыянальная Беларусь – пусты гук. Зараз мала хто ведае, ці не жадае ведаць, што Васіль Быкаў уваходзіў у аргкамітэт Беларускага Народнага фронту. Без апазіцыйнай дзейнасці пісьменніка, без яго аўтарытэту, наўрад бы ў жнівеньскія дні 1991 года незалежная дзяржава Беларусь увогуле з'явілася б на карце Еўропы.

Аднак "крамольныя" выданні камуністычныя праваднікі і іх цяперашнія пераемнікі рэжыма Аляксандра Лукашэнкі яшчэ маглі неяк цярпець. А вось выступы супраць іхняй манаполіі на ўладу – ніколі. Прапагандысцкія падхалімы празвалі вялікага беларуса "літаратурным паліцаем" – такога хамства не дазвалялі сабе нават камуністы. Закрыты кунтыдэмакратычнай палітыкі рэжыма яго перасталі выдаваць на радзіме. Па сутнасці, гэта было выгнанне.

З канца 1997 года Быкаў жыў за мяжой. Спачатку ў Фінляндыі, затым пераехаў у Нямеччыну, пазней – у Чэхію. Эміграцыя не надала яму сілы. На Беларусь пісьменнік вярнуўся за месяц да смерці. У апошні шлях яго праводзілі 40 тысяч чалавек. Дарэчы, вуліца Быкава ў Менску так і не з'явілася, нягледзячы на сотні тысяч подпісаў, сабраных у падтрымку гэтай ініцыятывы.

Васіль Быкаў у поўным сэнсе нацыяльны пісьменнік сусветнага ўзроўню. Ён падняў рэальнага беларуса над светам і паказаў яго такім, як ён ёсць. І велічным духам, і слабым, с атручанай душой. І яго стаўленне да асабістай свабоды, якую ён так неабачліва прамяняў на "чарку са шкваркай" у пачатку 90-х. У мемуарнай кнізе Быкава "Доўгая дарога дадому" ёсць папярэджанне: "Найболей вінаваты мы самі, бо яшчэ не ўсвядомілі боскай каштоўнасьці свабоды і незалежнасці. Народы, якія на пачатку трэцяга тысячагоддзя ад Хрыстовага нараджэння не засвоілі гэтае ісціны, рызыкуюць не засвоіць яе ніколі. І навек застацца рабамі – найперш уласнае цемры і ляноты".

**Аляксандр Шчамлёў**

**ПАМЯЦЬ**

# ПЕРАПАХАВАЛІ ПАРЭШТКІ САВЕЦКІХ САЛДАТ

**Перапахаванне астанкаў пяці невядомых салдат, якія загінулі ў час Другой Сусветнай вайны, адбылося 21 чэрвеня на брацкіх могілках у Тропіне. На жалобным мітынгу выступілі намеснік старшыні райвыканкама АнатольЗайцаў, ваенны камісар Алег Чарняўскі і святар Фёдар Пучынскі.**

Паводле мясцовых жыхароў, каля вёскі Мікалаёва і Грышаны неадначы знаходзілі чалавечыя косткі. Вайсковыя пошукавікі ўжо вядомага 52-га асобнага спецыялізаванага батальёна па падказцы месцічаў сапраўды выявілі астанкі пяці невядомых савецкіх салдат. Экспертам не ўдалося апазнаць астанкі савецкіх байцоў, як іх прозвішчы, да якой часці яны належалі. Хутчэй за ўсё, імёны чырвонаармейцаў навечна застануцца невядомымі. За апошнія пяць гадоў удалося устанавіць асобы васьмі вайскоўцаў са знойдзеных дваццаці астанкаў. Усе яны былі ўрачыста перапахаваны.

Сем дзесяцігоддзяў праляжалі ў лесе астанкі пяці чырвонаармейцаў. Але невядомыя – не значыць забытыя. Да месца апошняга прытулку іх праводзілі дэлегацыі ад працоўных калектываў, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, пенсіянеры і школьнікі. Жалобная працэсія з дарослых і дзяцей накіравалася на брацкія могілкі ў Тропіна. Нарэшце труны з астанкамі салдат пад урачыстыя залпы апусцілі ў зямлю. Святары правялі абрад пахавання, на свежую магілу ўсклалі вянкі. Цяпер на шумілінскай зямлі з'явіцца яшчэ адзін абеліск.

Ваенныя падзеі – гэта наша гісторыя, якую мы не павінны забываць. І наш доўг працягнуць работы па пошуку загінуўшых. Штогод на тэрыторыі нашага раёна сапёрамі воінскіх аддзелаў абясшкоджваюцца да ста адзінак боеприпасаў часоў Другой Сусветнай вайны, выяўляюцца няўлічаныя воінскія пахаванні. На Шумілліншчыне загінула больш за 10 савецкіх вайскоўцаў і больш за дзве тысячы партызан. Пераважная большасць з іх – невядомыя. Аднак не павінна застацца ніводнага салдата, на магіле якога не стаяў бы памятны знак, які напамінаў бы нашчадкам аб гераізме, вайсковай доблесці тых, хто навечна застаўся на полі бою.

**С. Горкі**

**ГРАМАДСТВА І ЗАКОН**

# НЯМА МАЦЯРЫНСКАГА ІНСТЫНКТУ?

**Тры гады таму назад маладую жанчыну з пасёлка Светласельскі пазбавілі бацькоўскіх правоў. А пасля нараджэння другога дзіцяці ў красавіку яна сама адмовілася ад яго і пакінула ў бальніцы.**

Калі і з чаго ў нашым раёне пачалася праблема закінутых дзяцей і бязглуздых бацькоў – дакладна невядома, ніхто не аналізаваў. Само сабой, што адпаведна будуць нарастаць і негатыўныя наступствы сацыяльнага сіроцтва пры жывых бацьках. Бо праблема дзяцей, якія апынуліся ў сацыяльна небяспечным становішчы настолькі вырасла і расквітнела, што цяпер яе вымушаны вырашаць літаральна ўсім светам на дзяржаўным узроўні.

Гэта ўжо не проста асацыяльныя паводзіны з адзінкавых прыкладаў апушчаных людзей, а дэградацыя асобных пластоў насельніцтва, якая набывае масавы характар і мае ўстойлівую тэндэнцыю.

І калі бацька-уцякач ужо нікога не здзіўляе, то абыякавасць маці-зязюль да лёсу родных дзяцей здаецца неверагодным і дзікім учынкам. Хтосьці адмаўляецца ад дзіцяці адразу пасля яго нараджэння, хтосьці забывае аб ім пазней. Жанчына пачынае страчваць уяўленне аб сабе як адзінай захавальніцы сямейнага ачага.

У жывёльным свеце ўсё проста: нараджаецца патомства – у самак "прачынаецца" мацярынскі інстынкт. За сваіх гадаванцаў жывёліны гатовы ахвяраваць жыццём. У людзей намнога складаней. На шчасце, і сярод жанчын пераважаюць самаадданыя маці. Але нямала і такіх, у якіх мацярынскі інстынкт так і не прачнуўся.

Менавіта таму дзяржава вымушана бараніць дзяцей ад родных бацькоў. Так, 24-гадовая грамадзянка В. у 2009 годзе нарадзіла першае дзіця, аднак адразу і ўхілілася ад яго выхавання. Жанчына злоўжывала спіртным, і судом Шумілінскага раёна было прынята рашэнне аб пазбаўленні яе бацькоўскім правоў. На судзе яна нават і не ўспамінала аб сваёй дзяўчынцы, якую неўзабаве ўладкавалі ў прыёмную сям'ю.

Праз некаторы час В. зноў нарадзіла, на гэты раз адразу ж пасля нараджэння адмовілася ад немаўляці, пакінуўшы яго ў бальніцы. На судзе напісала заяву, што не супраць, каб і гэта дзіця трапіла ў прыёмную сям'ю. Магчыма яно там зведае пяшчоту, клопат і любоў, няхай сабе і не ад роднай маці. А сама, па ўсяму відаць, зноў пойдзе ў п'яныя загулы…

**Алесь Шумскі**

**ТУРЫСТЫЧНЫ БІЗНЕС**

# ІВЕСТАРЫ ПАБУДУЮЦЬ ТУРЫСТЫЧНУЮ БАЗУ Ў ПОЛЦЕВЕ

**Маштабны турыстычны праект, які ўключае ў сябе гадоўлю коней для шпацыраў і высакародных аленяў для трафейнага палявання, плануюць рэалізаваць беларуска-расійскія інвестары ў Шумілінскім раёне. Апэратарам праекта выступае сумеснае таварыства "Егермейсцер".**

На аўкцыёне ў фондзе "Віцебскаблмаёмасць" выстаўлялася маёмасць у вёсцы Полцева. Лот уключаў у сябе чатыры будынкі агульнай плошчай больш за 1 тыс. кв. м, у тым ліку пабудаваны ў 1905 годзе паляўнічы домік, які добра захаваўся. Нерухомасць неадназова і безвынікова выстаўлялася на таргі, таму на гэты раз прадавалася са зніжкай 80% з пачатковым коштам больш за 280 мільёнаў рублёў. Праўда, цікавасць да аб'екта праявіў усяго адзін удзельнік. Пасля прызнання аўкцыёну несапраўдным інвестар пагадзіўся набыць лот па кошце амаль 295 мільёнаў рублёў. Як бачна, гэта перавышае пачатковую цану на 5%. Уласнікам аказалася ўжо згаданае сумеснае таварыства "Егермейсцер".

Паводле дырэктара кампаніі Ігара Куранного, набыты маёмасны комплекс валодае важным для турыстычнага бізнесу нематэрыяльным активам ў выглядзе прывабнай легенды. Арганізацыя трафейнага палявання і адраджэнне паляўнічых традыцый XVIII-XIX стагоддзяў з'яўляецца асноўным накірункам перспектыўнага развіцця турыстычнага комплекса. Перадусім кампанія ўжо арандавала лясны фонд і сельгасугоддзі. Акрамя таго, інвестары маюць намер арганізаваць водныя прагулкі па Заходняй Дзвіне па маршруце Шуміліна - Віцебск, стварыць цяплічную гаспадарку, пабудаваць бровар.

**С.Горкі**

## Аб'ява

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.

*********

Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.

*********

Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанак».

*********

Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.

КНІГА СКАРГАЎ

# ПРА НЯВЫПЛАЧАНЫЯ ЗАРОБКІ, “ХАРЧОВЫ КРЭДЫТ” І БУНТ ДАЯРАК

**Усё часцей паступаюць паведамленні аб затрымках заработнай платы работнікам сельскай гаспадаркі. У сельгаспрадпрыемстве “Сіроцінскі” Шумілінскага раёна парушаюць тэрміны выплаты заработнай платы сваім працаўнікам.**

Днямі жывёлаводы фермы Сіроціна скардзіліся, што кіраўніцтва гаспадаркі часткова не выплаціла грошы за красавік месяц. Праўда і тое, што частку заробкаў выдавалі “прадукцыяй Віткопрадукта”. Аднак нявыплачаная рэшта ўсё ж такі завісла аж на трэці месяц. Па словах Уладзіміра Федаськова, які зараз выконвае абавязкі дырэктара сельгаспрадпрыемства “Сіроцінскі”, на ферме не выкананы планавыя паказчыкі па здачы малака. Надоі зьмяншаюцца: калі ў мінулым годзе яны былі 11,2 кг малака на карову, то сёлета – 8,4 кілаграма. Да таго ж аграпрамбанк не выдаў крэдыт на зарплату.

Наогул, цяпер у раёне вельмі складаная сітуацыя са своечасовай выплатай заробкаў ва ўсёй сельскагаспадарчай галіне. Каб неяк зняць сацыяльную напружанасць, мясцовыя ўлады рэкамендавалі гандлёвым арганізацыям выдаваць вясковым працаўнікам прадуктовую пазыку ў крамах. Верагодна, што адмысловага рашэння ў райвыканкаме не прымалася, тым больш на сесіі райсавета дэпутаты гэта пытанне не ўзнімалі. Апроч таго, існуе інструкцыя пра парадак продажу тавараў у крэдыт, зацверджаная загадам Міністэрства гандлю Рэспублікі Беларусь ад 29.04.1996 № 36.

Выходзіць, што тавары даюць нібыта ў крэдыт, а не ў пазыку. У пералік могуць уваходзіць і харчовыя прадукты. Пералік тавараў гандлёвая арганізацыя вызначае самастойна. У 400 тыс. рублёў такога “харчовага крэдыту” уваходзяць хлеб, крупы, цукар, алей, локшына. Бадай што, толькі самыя неабходныя тавары паўсядзённага попыту і выдаюць. Прычым без анікага спіртнога, толькі найперш прадукты харчавання.

Як бы там ні было, але многія працаўнікі незадаволены адсутнасцю “жывых” грошай. Бывае так, што згоды людзей ніхто не пытае. Аднак як жыць без “жывога рубля”? Прадукты прадуктамі, але ж і дзецям, напрыклад нешта трэба даць. Узнікае заканамернае пытанне, а чаму сіроцінскія жывёлаводы не звяртаюцца ў суд? У даным выпадку закон на іх баку.“Выплата заработнай платы праводзіцца рэгулярна ў дні, вызначаныя ў калектыўным дагаворы, але не радзей, чым два разы за месяц (частка першая арт 73 ПК)”. Юрыдычныя і фізічныя асобы, вінаватыя ў парушэнні заканадаўства аб працы, нясуць дысцыплінарную, адміністрацыйную, крымінальную і іншую адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам (арт.465 ПК).

Адказнасць за парушэнне наймальнікам або ўпаўнаважанай службовай асобай наймальніка парадку і тэрмінаў выплаты заработнай платы прадугледжана часткай першай арт.9.19 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Названыя парушэнні цягнуць за сабой накладанне штрафу ад 4 да 20 базавых велічынь, а юрыдычнай асобе давядзецца заплаціць да 100 базавых велічынь.

Як высветлілася, тут ёсць шэраг акалічнасцяў, які не дазваляе сіроцінскім даяркам праявіць грамадзянскую волю. Па-першае, працоўны люд, асабліва вясковы запалоханы контрактнай сістэмай. І натуральна, яны баяцца адстойваць свае правы, рызыкуючы трапіць пад скарачэнне. Па-другое, на рахунку адміністрацыі калектыў фермы Сіроціна лічыцца, мякка кажучы, маральна няўстойлівым. Не саромеюцца ўчыніць п'янку на рабочым месцы, здзейсніць парушэнні працоўнай дысцыпліны і прагулы. Але ж кожнаму працаўніку хочацца сацыяльнай справядлівасці, ён мае на гэта права. Таму даяркі па-свойму расцанілі парушэнне правоў работнікаў: перасталі даіць кароў у абед – перайшлі на двухразавае даенне замест трохразавага. Праявы народнага бунту савецкіх часоў: яны робяць выгляд, што павялічваюць нам зарплату, а мы робім выгляд, што лепш працуем.

Зрэшты, чаму ў баку ад гэтай праблемы засталіся прафсаюзы? Ці не яны першымі павінны стаяць на абароне законых правоў і інтарэсаў работнікаў? Па ўсяму відаць, што адсутнасць кантроля за захаваннем нормаў заканадаўства аб працы будзе працягвацца і надалей.

**Алесь Шумскі**

КРЫМІНАЛ

# СКРАЛІ ЛЕГКАВІК

У ноч з 10 на 11 чэрвеня ў жыхара горада Полацка прапала аўтамашына “ВАЗ”-21013. У ходзе рэалізацыі плана “Пошук” аўтамашына знойдзена супрацоўнікамі міліцыі ў тэхнічна спраўным стане ў вёсцы Блізніца і вернутая ўладальніку. Папярэдне ўстаноўлена, што крадёж здзейснілі навучэнцы 1995 і 1996 года нараджэння, абодва жыхары Шумілінскага раёна. Супраць іх заведзена крымінальная справа па артыкуле 205 ч. 2КК.

# ЛЕТА – СЕЗОН ВЕЛАСІПЕДНЫХ КРАДЗЯЖОЎ

З надыходам цяпла прыйшла пара крадзяжоў веласіпедаў. Асноўнай прычынай здзяйснення дадзенага віду злачынства ў большасці выпадкаў з’яўляецца ўласная бестурботнасць грамадзян. Кожны трэці крадзёж, як правіла адбываецца са шматкватэрнага дома. Шумілінцы часта пакідаюць сваіх “жалезных коней” на захоўванне ў грамадскім калідоры, ля крамаў, пад'ездаў дамоў, гандлёвых павільёнаў, на ноч – на лесвічных пралётах шматкватэрных дамоў. Вядома гэта не пакідае абыякавымі зламыснікаў і правакуе іх на здзяйсненне крадзяжу. Усяго на Віцебшчыне з пачатку гэтага года 130 уладальнікаў пазбавіліся двухколавага транспарту.

Той факт, што пачасціліся выпадкі крадзяжу тлумачыцца тым, што веласіпед сёння – адно з даступных сродкаў перамяшчэння. Таму крадзеную маёмасць часта перапрадаюць, ды і попыт на патрыманыя веласіпеды куды вышэй, чым на новыя.

Нядаўна з пляцоўкі шматкватэрнага дома ў Шуміліне знік веласіпед. Як высветлілася, яго скраў ужо раней судзімы жыхар вёскі Каравайніца. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа. А літаральна праз пару дзён яшчэ адзін гаспадар з райцэнтра звярнуўся ў міліцыю з заявай аб крадзяжы веласіпеда ў пад’езда. Жыхары гэтай шматпавярхоўкі дарэмна спадзяваліся, што іх маёмасць абароняць дамафонныя дзверы.

А вось жыхар вёскі Слабада бесклапотна пакінуў свайго двухколавага сябра проста на абочыне. Дамоў дабіраўся пешкі – веласіпед разабралі на запчасткі. Памер нанесенага ўрону складае 400 тысяч рублёў. Вядзецца вышук.

Каб абараніць свой веласіпед ад злодзеяў, перш за ўсё гаспадар павінен клапаціцца аб бяспецы свайго транспартнага сродку. Веласіпед ад крадзяжу можа засцерагчы не толькі спецыяльны трос з замыкаючай прыладай, але і прosты металічны ланцуг, закрытая за звёны звычайным навясным замком і прымацаваны да любога нерухомага прадмета: дрэва, слупа, да поручня на лесвічнай пляцоўцы.

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# МУЗЕЙНЫ ФЭСТ

**Напрыканцы траўня ў Шумілінскім краязнаўчым музеі адбылася акцыя, прысвечаная Міжнароднаму дню музеяў. На мерапрыемства сабраліся наведвальнікі з райцэнтра, пастаянныя сябры, мясцовыя школьнікі.**

Штогод адзначаюць гэтае свята ўсе без выключэння работнікі 30 тысяч музеяў у 150 краінах свету. У кожнага Міжнароднага дня ёсць свая тэма. У гэтым годзе свята праходзіла пад дэвізам, сфармуляванага ў выглядзе своеасаблівага ўраўнення, якое аб'ядноўвае некалькі канцэпцый, ключавых для разумення сутнасці, ролі і заданняў сучаснага музея. Дэвіз быў агучаны даволі арыгінальна: "Музеі (памяць + крэатыўнасць) = сацыяльныя змены.

Вядома ж, удзельнікам акцыі "Міжнародны дзень музеяў" у чарговы раз стаў і Шумілінскі гісторыка-краязнаўчы музей. У гэты дзень, як ніколі, музей гасцінна расчыніў дзверы для сваіх пастаянных сяброў і новых наведвальнікаў. Супрацоўнікі музея пастараліся падзяліць з імі радасць свята і натхнення ад сустрэчы, пазнаёміць з музейнымі навінамі і прадаставіць магчымасць атрымаць асалоду ад сваіх калекцый. Падчас музейнага свята ўсе жадаючыя змаглі апынуцца ў загадкавым свеце трапічных насякомых, наведаўшы ўнікальную выставу "Нябачны свет небяспекі".

У музейнай зале былі прадстаўлены не толькі цікавыя выставы, але і арганізаваны забаўляльныя мерапрыемствы. Прайшла гульня- віктарына пад назвай “Незвычайны свет звычайных прадметаў”, у якой прынялі ўдзел вучні чацвёртых класаў шумілінскіх школ. Таксама ў музеі ладзілі беспройгрышную латарэю “Сярод музейных экспанатаў”. Усім жадаючым можна было праявіць сваю эрудыцыю, бо кожны білет латэрэі адпавядаў прадмету побыту канца 19 – пачатку 20-га стагоддзя ў раздзеле “Этнаграфіі”, дзе і былі схаваны запаветныя прызы.

Супрацоўнікі Обальскага філіяла ў гэты дзень таксама ладзілі насычаную праграму для наведвальнікаў. Мерапрыемства прайшло ў форме займальнай экскурсіі, падчас якой госці ўстановы даведаліся пра гісторыю стварэння Обальскага музея. Музей быў запланаваны як філіял Беларускага Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны з прэзентацыяй найбольш цікавых экспанатаў з фондаў абодвух музеяў. Прысутным былі прапанаваны для прагляду відэафільм " Мастацкія музеі свету ", які распавядаў пра гісторыю сусветна вядомых музеяў. На заканчэнне ўсе жадаючыя змаглі прыняць удзел у музейнай віктарыне і пазмагацца за званне лепшага знаўцы музея.

Без павагі да гістарычнага мінулага няма будучыні. Глыбокае веданне сваіх каранёў, павага да спадчыны, якая засталася нам ад продкаў, спрыяюць умацаванню нацыянальнай ідэнтыфікацыі і самаадназначнаму нацыі

Ва ўмовах наступу масавай культуры ўсё большае значэнне, як надзейны гарант захавання ідэнтычнасці і самабытнасці народа, набывае нацыянальная культура і этнаграфічная спадчына. Трэба толькі настойліва шукаць тыя новыя формы далучэння насельніцтва і непасрэдна моладзі да культурнага вопыту продкаў, якія б знаходзілі эмацыянальны водгук у душах і абуджалі цікавасць. У скарбніцы народнай мудрасці варта знаходзіць адпаведныя часу і сучасным патрабаванням духоўныя каштоўнасці, што паспрыяюць у фарміраванні сучаснага чалавека як асобы, грамадзяніна і патрыёта сваёй Бацькаўшчыны.

**Алесь Прыбярэжны**

ПАЖАРЫ

# ЗГАРЭЛІ ПУНІ Ў МІКІЦІСЕ

Каля шматпавярховых дамоў у вёсцы Мікіціха загарэліся тры незарэгістраваныя пабудовы. Пажарнікі ніводную ўратаваць не паспелі – збітыя з дошак пуні імгненна згарэлі ўшчэнт.

Супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях не далі агню перакінуцца на гаражі грамадскія гаспадарчыя пабудовы, якія знаходзіліся побач. Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём.

# У ГАРАДСКІМ ПАСЁЛКУ ОБАЛЬ ЗГАРЭЎ ДОМ

26 чэрвеня каля паловы другой гадзіны ночы ў пасёлку Обаль адбыўся пажар жылога дома на вуліцы Школьная. У доме 5х10 метраў знішчаны дах, пашкоджаны сцены, маёмасць. Прычына пажару высвятляецца.

ПРАТЭСТ

# ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ — СУПРАЦЬ МЫТНАГА САЮЗА

**27 чэрвеня па ўсёй Беларусі прайшоў папераджальны страйк індывідуальных прадпрымальнікаў, незадаволеных новымі ўмовамі гандлю ў рамках Мытнага зьвязу. Страйкавалі і ў Віцебску.**

Рэчавыя рынкі часткова ці цалкам не працавалі практычна ўва ўсіх абласных цэнтрах, а таксама ў Баранавічах, Полацку, Касьцюковічах ды іншых гарадах.

Найбольш маштабным пратэст быў у Менску — акцыю падтрымалі Чэрвеньскі рынак, гандлёвыя цэнтры «Паркінг», «Люстэрка», «Манетка», «Уручча», шапікі на тэрыторыі, прылеглай да гіпэрмаркету «Бігз», на стадыёне «Дынама». Эпіцэнтрам прадпрымальніцкага незадавальненьня стаў рынак «Ждановічы», дзе агулам спынілі працу блізу паўтары тысячы павільёнаў. У ходзе акцыі затрымалі лідэра аб'яднаньня «Пэрспэктыва» Анатоля Шумчанку і шэраг незалежных журналістаў. Сярод апошніх быў і наш карэспандэнт Ігар Карней.

Масавасьць акцыі зьдзівіла нават ініцыятараў яе правядзеньня. Зрэшты, як сказаў з прыступак гандлёвага цэнтру «Сьвет моды-1» на рынку ў Ждановічах адзін зь лідэраў прадпрымальніцкага руху Анатоль Шумчанка, новыя ўмовы гандлю, якія сталіся вынікам сяброўства Беларусі ў Мытным зьвязе, тычацца занадта вялікай колькасьці людзей, каб рабіць выгляд, што нічога не адбываецца.

Найперш нараканьні выклікае тэхнічны рэглямэнт, які ўступае ў сілу 1 ліпеня і тычыцца перадусім рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасьці: «Тэхнічны рэглямэнт — гэта рашэньне беларускага боку, ініцыятар — Расея. Беларускі бок у 2011 годзе зьняў з нас усе патрабаваньні: мы працавалі спакойна, пакуль ня ўляпаліся ў гэты Мытны зьвяз. Як толькі ўляпаліся — так і панеслася. Дарэчы, ініцыятарам палажэньня была Расея, распрацоўваў Казахстан, а пакутуюць беларусы. Вось вам і закулісьсе Мытнага зьвязу. Паколькі ў іх ніякія законы ня дзейнічаюць, там сапраўдны бардак. Таму яны папросту не зьвяртаюць увагі на такіх, як мы. Адзіны выхад — гэта вывесьці прадпрымальнікаў розьнічнага гандлю з-пад дзеяньня дадзенага тэхнічнага рэглямэнту.

Хай яны, краіны Мытнага зьвязу, ствараюць агульныя органы правапарадку, хай яны на межах агульнага рынку Расеі і Казахстану ловяць сваіх кантрабандыстаў, глядзяць, каб у іх былі гэтыя маркі, каб захоўвалася якасьць. Хай у стэпах Казахстану і на Далёкім Усходзе ўсё гэта робяць. Але мы не павінны цярпець з-за таго, што яны напісалі законы (у сябе не выконваюць — плюнулі), і мы тут давай, танцуй. Пад пагрозу нацыянальны бізнэс паставілі, перавярнуўшы ўсё з ног на галаву».

Незадаволенасьць прадпрымальнікаў патлумачыў Анатоль Шумчанка — маўляў, пастанова аб нібыта падаўжэньні тэрміну гандлю паводле ранейшых схемаў існуе толькі на словах:

«Паслухайце: вы ж пісьменны чалавек, чыноўнік, які працуе ва ўладзе. Не дэманструйце прылюдна хоць свой узровень. Гэтая пастанова не прайшла юрыдычнай экспэртызы ў Міністэрстве юстыцыі. Навошта вы нам яе зачытваеце?»

На падтрымку калегу прыйшоў Аляксандар Таўстыка. Ён безапэляцыйна заявіў: сёньня вырашаюцца ня столькі ўмовы тэхнічнага рэглямэнту, а тое, куды заўтра могуць рушыць незадаволеныя прадпрымальнікі: «Як прадпрымальнік падтрымаю Шумчанку. Фактычна мы абмяркоўваем наступнае: альбо мы працуем на 1 ліпеня ў нармальных умовах, у гэтых будынках, альбо мы выходзім на Кастрычніцкую плошчу (воклічы з натоўпу — „Усё правільна!“). Вы хочаце зараз сказаць, што ў Пуціна ў Расеі чысты бізнэс, ня шэры, што там усе маюць сэртыфікаты? А з чым вы тады зараз прыйшлі да нас? Вы зараз прачыталі пра нейкія нацыянальныя сэртыфікаты. Мы зараз працуем у адзіным Мытным зьвязе. І мы ведаем, што цяпер ёсьць новы ўзор сэртыфікатаў для краінаў Мытнага зьвязу. А вы зноў павяртаеце нас да нейкага нацыянальнага сэртыфікату. Ідзіце пачытайце што-небудзь разам з Кабяковым».

Прадпрымальнікі абураныя, што беларускія ўлады традыцыйна ставяць іх перад фактам, не спрабуючы выпрацаваць агульную пазыцыю з тымі, каму ў новых умовах рэальна працаваць. Так, спадарыня Ніна кажа, што чыноўнікі заўсёды ўспрымаюць гандляроў як клясу, якая зусім ня ўпісваецца ў сыстэму пдзянавай эканомікі. А таму і раіцца з дэструктыўнымі элемэнтамі не зьбіраецца: «За што мяне, маіх сяброў так караюць нашы чыноўнікі? Проста таму, што яны нас лічаць за быдла. Я калісьці гандлявала ў Расеі. Прыходзіць АБЭП, падатковая: добры дзень, вашы дакумэнты. Адказваю: дзяўчаты, я зь Беларусі. Яны перапытваюць: а вы заплацілі падаткі? Не, кажу. Давайце, маўляў, заплацім. Плачу па нашых грашах 50–100 тысяч рублёў — і працую далей. Няма праблемаў, да пабачэньня, усе міла разышліся. А нашы прыходзяць — я стаю, калачуся, у мяне дрыжыць голас, стаю перад імі навыцяжку. Пры тым, што гэта мая ўласнасьць, я на гэты тавар зарабляла ўсё жыцьцё, мне ж ніхто ня даў першапачатковага капіталу. Я б шмат чаго нагаварыла, але, на жаль, у нашай краіне лепей маўчаць…»

Пры канцы акцыі Анатоля Шумчанку запрасіў на гутарку намесьнік начальніка РАУС Цэнтральнага раёну сталіцы Шарамецьеў. Прадпрымальнік адмовіўся размаўляць зь міліцыянтам сам-насам, сказаўшы, што калі ёсьць намер яго затрымаць, то можна гэта зрабіць і прылюдна. Той адступіў.

У суправаджэньні журналістаў Свабоды, «Народнай волі» і парталу Tut.by спадар Шумчанка даехаў да гандлёвага цэнтру «Паркінг», але пры пасадцы ў ліфт усіх затрымалі. Журналістаў пасьля дзьвюх гадзін ідэнтыфікацыі асобы ў Цэнтральным РУУС выпусьцілі, Шумчанку некалькі да вечара пратрымалі ў пастарунку, а пасьля ў закрытым рэжыме асудзілі на 5 сутак адміністрацыйнага арышту.

**"Радыё Свабода"**

ПОМНІЦЬ!

# «СЬВЕТЛЫ БЫКАЎ»

**19 чэрвеня — сьветлы дзень. Мы звычайна ў гэты дзень ішлі да Васіля Быкава, віншавалі яго з Днём народзінаў. Я бачыў, што Быкаў і сам любіў такія спатканьні. Ён пачуваўся ў Фронце душэўна ўтульна. Атмасфэра ласкі і дабрыні, якая атуляла яго і якая ўвогуле была тады ў сядзібе БНФ, вельмі імпанавала яму. Усе жылі, як на крыльлях. Ужо была Незалежнасьць (наша мара і наша перамога), была беларуская школа, вольны друк, змагаліся за добрае будаўніцтва сваёй краіны.**

Для многіх з нас гэта былі гады душэўнага шчасьця. Для Васіля Ўладзімеравіча, відаць, таксама. Калі ён бываў у нас у сядзібе, абліччa яго станавілася лагодным, а вочы сьвяціліся. Яму было добра.

У 1994 годзе яму споўнілася 70 гадоў. Грамадзкасьць і афіцыёз, і мы ў Фронце, рыхтаваліся кожны па-свойму тое адзначыць. Але Быкаў (які ўвогуле не любіў урачыстых афіцыёзаў) адмовіўся ад ушанаваньня свайго юбілею і ў Саюзе пісьменьнікаў, і ў іншых месцах. Ён сказаў, што будзе толькі ў Фронце, у сядзібе БНФ. І я разумеў, чаму ён так вырашыў.

Прыйшла моц людзей. Але не было ні адной чужой афіцыёзнай фізіяноміі, ніводнай фальшывай прамовы. Сабраўся цьвет нашай творчай нацыі, былі цёплыя позіркі і словы, простыя шчырыя дачыненьні і народныя сьпевы. Думаю, што было якраз тое, што трэба было гэтаму вялікаму чалавеку для добрасьці яго шчырай беларускай душы.

Праз 10 гадоў гэтыя ж самыя людзі праводзілі яго ў апошні шлях. Ужо перамяніўся сьвет. Цемра, хамства, гразь і нянавісьць віравалі вакол, імкнуліся зганьбіць ягоную сьмерць. Гэбоўскія бесы выскоквалі на дарогу, спрабавалі танцаваць перад яго труной. Эфір гэбісцкіх рацый поўніўся матам і подлымі камандамі на подлыя справы (гэта чулі сьведкі).

Нічога ня выйшла ў цемрашалаў. Абвалілася ў іх усё. Наша сіла мацнейшая. Сьветлым і магутным быў апошні шлях Васіля Быкава.

Быкаў мог дажыць да 90 гадоў. Ён мог яшчэ быць разам з намі. Мы вельмі перажывалі, што ён адышоў і ведаем ягоных скрытых забойцаў. І ўсё ж такі Боская воля лепшая, чым нашыя меркаваньні.

Дажываючы да 90, гэты вялікі чалавек вымушаны быў бы з году ў год адчуваць павелічэньне нянавісьці, брыдоты, ілжы вакол свайго сьветлага імя. Зьдзекваліся б зь яго старасьці так, як рабіў гэта адзін вусаты мярзотнік у час яго сьмерці, абплёўвалі б яго мінулае, яго творчасьць і славу. Гэта было б, бо такая прырода падлюг, што цяпер дасягнулі ўлады.

За сябе мне сказаць проста. За 25 гадоў у палітыцы, вакол майго арганізму ўжо даўно стварылася стальная браня. І няма на сьвеце такой ілжы з боку нізкіх, якая б мяне раніла ці выбіла б з раўнавагі. Нездарма яны захлёбваюцца — гэта ад бясьсільля.

Не сумняваюся, што ўсё перамог бы і Быкаў, але... прапусьціўшы праз сэрца. Бо такая прырода сьветлых людзей.

Сьмерць Быкава выклікае адчуваньне трагедыі і горычы ня толькі таму, што ворагі прысьпешылі яго паміраньне і ён мог яшчэ жыць, але найперш таму, што сьветлы Быкаў пайшоў, а акупанцкая чэрнь засталася, віруе, кіруе, і ён ня ўбачыў яе канца.

Ён убачыць яе зь нябёс. Тут вельмі розныя сутнасьці. Нечысьці ў індывідуальным выяўленьні абавязкова прыходзіць натуральны канец. Нечысьць нічога не пакідае для будучыні.

Тым часам імя і творчасьць Быкава належаць вечнасьці, бо адлюстравалі яе ў вобразах, думках і характве. Творчасьць Быкава — гэта сусьветны ўзровень, пазнаньне для ўсяго чалавецтва.

Гэта будзе ўсьвядомлена моцна, калі моцнай будзе Беларусь, тая сьветлая, культурная і магутная народная Беларусь, за якую змагаўся Народны Фронт.

**19 чэрвеня**
**Зянон ПАЗЬНЯК**

БЕЛАРУСЬ -- ЕЎРАЗЬВЯЗ

# У БРУСЭЛІ ЧАКАЮЦЬ ВЫЗВАЛЕННЯ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

Еўрасаюз у аднабаковым парадку зняў візавыя санкцыі з міністра замежных спраў Уладзіміра Макея, і гэта пры тым, што ў беларускіх турмах застаюцца палітвязні. Што стаіць за аднабаковым рашэннем Еўрасаюза і да чаго можа прывесці гэтая саступка? «Беларускі партызан» пагутарыў з палітолагам, намеснікам старшыні Руху "За Свабоду" Алесем Лагвінцом.

***- Афіцыйны Мінск не зрабіў ні аднаго кроку насустрач Еўразвязу, які ў аднабаковым парадку адмяніў візавыя санкцыі ў дачыненні да Уладзіміра Макея. Чаму?***

- Думаю, рэжым пастараўся паднесці некаторыя факты як вялікі прагрэс: не дадзены ход справах супраць Пачобута і Булгакава, маюцца факты візітаў Палецкіса і Міятавіч, апошняя, дарэчы, была неўязны ў Беларусь. Зразумела, што сітуацыя ў краіне застаецца стабільна цяжкай, але рэгіянальныя кантэксті, мабыць, настойлівыя сігналы з Мінска падштурхнулі краіны ЕС зрабіць саступку ў працэдурным пытанні. Гэты крок, хутчэй, варта разглядаць як праява жадання ЕС стаць больш прыкметным у Беларусі.

***- Візавыя санкцыі Еўрапейскага саюза ў дачыненні да Уладзіміра Макея прыпыненыя на той час, пакуль ён займае пасаду міністра замежных спраў Беларусі. І зроблена гэта з мэтай спрасціць дыпламатычныя кантакты паміж ЕС і Беларуссю. Так тлумачыць сваю пазіцыю Еўрасаюз. Наколькі лагічным Вам уяўляецца гэта рашэнне?***

- Рашэнне неадназначнае. Бачна, што ў ЕС аддаюць перавагу палітыцы ўцягвання, а ня ізаляцыі. Гэтая тэндэнцыя прасочваецца і ў палітыцы ЕС у дачыненні да Украіны і іншым краінам Усходняга партнёрства, дзе таксама хапае палітычных праблем і парушэнняў правоў чалавека. За ўплыў на краіны УП ідзе канкурэнцыя паміж ЕС і Расіяй. Для ЕС важна захаваць і пашырыць еўрапейскую перспектыву для нашага рэгіёну.

***- Вядомы палітолаг назваў адмену візавых санкцый паразай Еўропы: прыпыняючы санкцыі, Брусэль адмаўляецца ад прынцыповай пазіцыі па беларускім палітвязням. А, значыць, вагаецца і не ведае, што рабіць.***

- Параза Беларусі і яе грамадзян, у тым ліку і палітычных каментатараў, у тым, што многія любяць быць назіральнікамі і каментатарамі, а ня гульцамі. Прасцей за ўсё назапасіцца поп-корнам і глядзець на «бітву тытанаў». Варта глядзець фактах ў твар, а не кідацца лёзунгамі і абвінавачваннямі. Краіны ЕС найбольш паслядоўна і прынцыпова (прычым, хутчэй, больш паслядоўна, чым многія грамадзяне нашай краіны) аказваюць рознага роду падтрымку палітвязням і іх сем'ям. ЕС пакуль не бачыць у Беларусі крытычнай масы, гатовай аказваць істотны ціск на рэжым і абараняць свае правы.

***- Брусэль зрабіў крок насустрач Мінску. Які ход у адказ гатовы зрабіць беларускі рэжым?***

- Усе чакаюць вызвалення палітвязняў. Гэты крок - лакмусавая паперка.

ГУЛЬНІ БЮРАКРАТАЎ

# ЯК ЗАБАРАНІЛІ, ТАК І ДАЗВОЛІЛІ

**Мясьніковіч дазволіў калоць сьвіней па-старому, калі на месцах, у тым ліку і ў Гарадоцкім раёне, не выканалі яго д825учэнне аб "арганізацыі рэзу" у кожным аграгарадку. Фэрмэрскім і асабістым гаспадаркам вярнулі права самастойна забіваць сельскагаспадарчых жывёл на мяса.**

Адмысловая пастанова Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчаваньня апублікаванана Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале і ўступае ў сілу ад 14 чэрвеня.

Згодна з пастановай, дазваляецца да 1 студзеня 2014 года самастойна забіваць буйную і дробную рагатую жывёлу, сьвіней, коней для продажу мяса.

Аднак рабіць гэта можна толькі пад кантролем ветэрынара з правядзеньнем санітарнай экспэртызы.

Гэтай праблемай асабіста займаўся прэм'ер-міністар Міхаіл Мясьніковіч.

На пачатку году была прынятая пастанова, што забіваць жывёл з асабістых гаспадарак будуць у спэцустановах. Потым гэтае пытаньне разглядалася на нарадзе ва ўрадзе. 22 траўня Мясьніковіч даручыў павялічыць колькасьць пунктаў для зарэзу сельскагаспадарчых жывёл. То бок зрабіць «забойныя цэхі» у кожным аграгарадку. Пры гэтым прэм'ер запатрабаваў павысіць якасьць такіх паслуг ды зьнізіць кошты.

Амаль праз месяц Мясьніковіч выказаў незадаволенасьць «арганізацыяй рэзу». І вярнуў права прыватным гаспадаркам самім забіваць жывёл на мяса.

**"Радыё Свабода"**

АФРЫКАНСКАЯ ЧУМА

# ПОЛГОДА СКРЫВАЛИ АФРИКАНСКУЮ ЧУМУ СВИНЕЙ?

**Любопытный документ был опубликован 28 июня на сайте Национального правого портала. Речь идет о постановлении Минсельхозпрода №3, которое предоставляет главному ветврачу страны и его замам, главным ветинспекторам областей и их замам полномочия командовать губернаторами и иными местными руководителями в случае подозрения на или выявления очага африканской чумы свиней (АЧС).**

При подозрении на АЧС (перечисленные должностные лица) вправе давать обязательные для исполнения указания местным исполнительным и распорядительным органам о введении на территории соответствующих административно-территориальных единиц режима, аналогичного режиму в неблагополучном по АЧС пункте, с проведением соответствующих ограничительных мероприятий", - говорится в документе.

Аналогичные полномочия предоставлены ветврачам по указаниям "о введении в первой угрожаемой зоне режима, аналогичного режиму в неблагополучном по АЧС пункте, с проведением соответствующих ограничительных мероприятий", сообщает АФН.

В связи с последними событиями – речь идет о выявлении очага АЧС в Гродненской области – данный документ выглядит вполне закономерным: он позволяет ветеринарной службе приструнить тех губернаторов и начальников районного масштаба, которые по понятным причинам хотели бы повременить с введением карантина и началом весьма непопулярных мероприятий по устранению последствий АЧС, включая полную зачистку от свиней целых районов.

Постановление Минсельхозпрода вступает в силу через 15 дней после подписания. В этой связи особое любопытство вызывает следующий факт – документ был подписан еще 4 февраля 2013 года, а зарегистрирован на Национальном правовом портале – только 28 июня 2013 года (регистрационный номер 8/27636).

Такую способность Минсельхозпрода к пророчеству можно объяснить лишь тем, что в начале примерно около полугода назад в Беларуси уже были зафиксированы случаи АЧС и властям удалось избежать утечки информации (а с публикацией постановления решили повременить).

**«Белорусский партизан»**

АТРЫМАЦЬ ЗАРОБАК

# ПРАЦАЎНІКІ «ВЫБІВАЮЦЬ» ЗАРОБКІ ПРАЗ СУД

**Працаўнікі Круглянскага ільнозавода 20 чэрвеня падалі пазоў у суд Круглянскага раёна з патрабаваннем да адміністрацыі прадпрыемства выплаціць заробкі за красавік і травень, а таксама грошы на адпускныя.**

Жанчын, якія працуюць на прадпрыемстве, адправілі ў адпачынак і не пусцілі на працоўныя месцы 20 траўня, пасля таго, як яны калектыўна выступілі супраць закрыцця Круглянскага льнозавода. Да гэтага часу ім не выплацілі заробак за красавік і адпрацаваныя дні траўня, а таксама так званыя адпускныя грошы, якія павінны былі аддаць перад сыходам у вымушаны адпачынак.

Да падачы пазова ў суд жанчыны звярталіся па дапамогу ў пракуратуру ў Круглянскага раёна, аднак там іх не абнадзеілі ніякім чынам, сказалі, што завод усё роўна будзе зачынены.

Грамадская актывістка з Круглага Зінаіда Мілешчанка, якая дапамагае людзям адстойваць свае правы і складаць скаргі ў розныя інстанцыі, кажа, што людзі знаходзяцца проста ў адчаі.

«І ў мяне асабіста, і ў працаўнікоў льнозавода складваецца ўражанне, што раённыя ўлады ўсё робяць дзеля таго, каб не заплаціць работнікам завода за ліквідацыю іх працоўных месцаў ні капейкі.

Круглянскія ўлады не хочуць зачыніць завод і звольніць людзей згодна заканадаўства: своечасова папярэдзіць, выплаціць прадугледжаную законам дапамогу, ды паставіць на ўлік на біржу працы. Замест гэтага яны зачыняюць завод паэтапна. Жанчынам прапануюць часовую працу за 40 кіламетраў у Шклове, дзе яны змогуць адпрацаваць месяц-другі, а пасля зноў застануцца бяз працы. Улады проста хочуць прымусіць работніц льнозавода звольніцца па ўласнаму жаданню, каб не выплочваць грашовую дапамогу за страту працоўных месцаў.

Ім да гэтага часу не выплацілі заробак за красавік і травень, а таксама і адпускныя, хоць адпачынак у жанчын заканчваецца 25 чэрвеня. Я дапамагла працаўніцам льнозавода скласці і падаць пазоў у суд Круглянскага раёна, будзем чакаць, ці здолее ён абараніць іх правы».

Бальшыня працаўнікоў, якім пагражае звальненне, адпрацавалі на заводзе больш за 15 гадоў. Многія з жанчын знаходзяцца ў перадпенсійным узросце.

**«Вясна»**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ПРЭМІЯ БЫКАВА – У МАРАЧКІНА І ВАЙЦЮШКЕВІЧА

**19 чэрвеня на радзіме Васіля Быкава (у вёсцы Бычкі ва Ўшацкім раёне) адбылося ўручэнне сёлетняй прэміі "За свабоду думкі", заснаванай кіраўніком Руху "За Свабоду" Аляксандрам Мілінкевічам.**

У музеі-сядзібе Васіля Быкава адбылася традыцыйная сустрэча, прысвечаная памяці пісьменніка. Каля 60 чалавек прыехалі ў Бычкі, каб ушанаваць вялікага пісьменніка. Сярод іх - палітыкі Вячаслаў Грыб і Аляксандр Мілінкевіч, 1-ы сакратар амбасады Славакіі ў Беларусі Эрык Ліптак, бард Андрэй Мельнікаў, а таксама грамадскія актывісты і прадстаўнікі мастацтва і культуры з усёй Беларусі. На мерапрыемства таксама прыйшлі прадстаўнікі адміністрацыі Ушацкага раёна і мясцовыя жыхары.

Прэміяй "За свабоду думкі" імя Васіля Быкава ў гэтым годзе ўганараваны два чалавекі – музыка Зміцер Вайцюшкевіч і мастак Алесь Марачкін.

Нагадаем, прэмія "За свабоду думкі" імя Васіля Быкава заснаваная лідарам Руху "За Свабоду" Аляксандрам Мілінкевічам у 2008 годзе. Прызначэннем прэміі з'яўляецца ўслаўленне моцы думкі і духу, плённай працы на ніве беларушчыны. Ідэя заснаваць яе ўзнікла пасля атрымання Мілінкевічам прэміі "За свабоду думкі" імя Андрэя Сахарава, якую ўручае Еўрапарламент.

Працы Алеся Марачкіна (псеўданім – Алесь Мара) захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у музеях і прыватных галерэях Беларусі, Польшчы, Германіі, ЗША.

Алесь Марачкін узнагароджаны медалём Францыска Скарыны за высокія дасягненні ў справе нацыянальнага адраджэння, прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа (1992). Двойчы адмовіўся ад ганаровага дзяржаўнага звання - "Заслужаны мастак БССР" у 1989 годзе, пратэстуючы супраць сістэмы дзяржаўнага патранату і кантролю за мастацтвам, і "Заслужаны мастак Рэспублікі Беларусь" у 1995 годзе на знак пратэсту супраць антыбеларускай і антыдэмакратычнай палітыкі Аляксандра Лукашэнкі.

Зміцер Вайцюшкевіч удзельнічаў у гуртах "Крыві" і "Палац". Цяпер ён лідар і кіраўнік гурту "WZ-Orkiestra". Гурт выконвае музыку ў стылі world music, рэтра, гарадскі шансон, рок, аўтарская песня. Прызнаваўся "Музыкам году" і "Выканаўцам году" на "Рок-каранацыі".

Шмат цёплых слоў у гэты дзень было адрасавана пісьменніку Васілю Быкаву. Яго сястра Валянціна распавяла, як да вайны Быкаў хацеў стаць мастаком і, хоць і быў самавук, праяўляў вялікі мастацкі талент. Але лёс склаўся так, што ён стаў мастаком слова.

Па словах Валянціны Уладзіміраўны, пісьменніку давялося нялёгка.

- Цэнзары не пакідалі яго ў спакоі, - адзначае сястра. - Усё таму, што ён пісаў праўду пра простых людзей, пра простых салдат, і гэтая праўда ніколі не падабалася начальству.

Ужо амаль 10 гадоў, як Быкава няма з намі. Нягледзячы на гэта, ён па-ранейшаму застаецца адным з самых папулярных беларускіх аўтараў. Што сведчыць: справа яго жыве.

Тое, што хвалявала Быкава ўсё яго жыццё - беларуская мова, незалежнасць і чалавечую годнасць - працягвае нас хваляваць і цяпер.

**www.pyx.by/ bel/naviny/ruh/2989/**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.06.2013 у 19.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.